БЕЛАРУСКІЯ КОРЭСПОНДЭНЦЫЙНЫЯ КУРСЫ
Ў ПРАЗЕ

# ЯК ПРАВІЛЬНА ГАВАРЫЦЬ І ПІСАЦЬ ПАБЕЛАРУСКУ

ПРАГА 1941 г.

ВЫДАВЕЦТВА: Dr. JAN ERMAČENKO, BĚLORUSKÉ VYDAVATELSTVÍ
PRAHA I, U PRAŠNÉ BRÁNY 1

БЕЛАРУСКІЯ КОРЭСПОНДЭНЦЫЙНЫЯ КУРСЫ
Ў ПРАЗЕ

---

# ЯК ПРАВІЛЬНА ГАВАРЫЦЬ І ПІСАЦЬ ПАБЕЛАРУСКУ

ПРАГА 1941г.

---

ВЫДАВЕЦТВА: Dr. JAN ERMAČENKO, BĚLORUSKÉ VYDAVATELSTVÍ
PRAHA I, U PRAŠNÉ BRÁNY 1

# ЯК ПРАВІЛЬНА
## ГАВАРЫЦЬ І ПІСАЦЬ ПАБЕЛАРУСКУ

Пастановы Зборкаў Чысьціні Беларускае Мовы

Шшыток І. Прага 1941 год

ВЫДАНЬНЕ 2-ое НЯЗЬМЕНЕНАЕ.

*Перадмова да 1-го выданьня.*

## да Беларускае Інтэлігенцыі.

*Усе культурныя народы рупяцца аб чысьціні роднае мовы і працуюць дзеля гэтага ў вадумысловых установах ды выдаючы часапісы, пасьвячоныя чысьціні свае мовы.*

*Беларусам балей чымся якому іншаму народу трэба праца над чысьцінёй роднае мовы. Належым да народаў, што палітычна й культурна ўпалі і цяпер адраджаюцца. У часе ўпадку беларускага народу на мову нашую йшоў і цяперака йдзе ўплыў моваў суседніх, галоўна моваў тых народаў, што над намі запанавалі. Менаваны ўплыў ёсьць вельмі балючай зьяваю ў жыцьцю беларускага народу.*

*Дык ці не вялікай патрэбаю сталася праца над роднай моваю, галоўна дзеля яе чысьціні? Трэба не дапусьціць да дальшага засьмячэньня беларускае мовы чужымі ўплывамі і ачысьціць ад засьмячэньня дагэтулешняга. Пачаткі зборнае працы ўжо зроблены. У 1935 годзе паўсталі сыстэматычныя зборкі дзеля чысьціні беларускае мовы. Учасьнікамі зборкаў ёсьць беларускія языкаведнікі, філёлёгі, пісьменьнікі, поэты, рэдактары, публіцыстыя, — наагул усе тыя, што пішуць і друкуюць пабеларуску і тым самым уплываюуць на беларускі літаратурны язык. На зборках разглядаюцца розныя пытаньні зь беларускае граматыкі й слоўніка і прыймаюцца пастановы, зь іх аднагалосныя ўсіх забавязуюць, а прынятыя бальшынёў 3/4 галасоў лічацца пажаданымі Пропозыцыі, што не дасталі 3/4 галасоў, адкідаюцца. Вышменаваны склад Зборкаў Чысьціні Беларускае Мовы важны з навуковага гледзішча і дае магчымасьць шырокага выкарыстаньня практычнага прыйманых пастановаў.*

*Зварочуемся да ўсяе Беларускае Інтэлігенцыі з гарачым заклікам падзьдзержыць нашую працу. Заклікаем пашыраць пастановы Зборкаў Чысьціні Беларускае Мовы і тарнаваць іх у сваёй гутарцы і на пісьме.*

# ЗЬМЕСТ.

## ПРАГРАМА ПРАЦЫ НАД ЧЫСЬЦІНЁЙ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ.

Праграма павінна адказаваць заданньню і нашым магчымасьцям.

Заданьнем ёсьць: а) ачысьціць мову ад чужых слоў і чужых граматычных асаблівасьцяў, b) не дапусьціць новага засьмячэньня і с) умотываваць, умацаваць і пашырыць яе беларускі склад.

Вышменаванае заданьне будзе ўжыцьцяўляцца пры помачы гэткае працы:

1. Сыстэматычнага разгляду мовы беларускае прэсы і выдаваных кніжкаў, прычым мае зварочвацца ўвага ня толькі на заганы мовы розных выданьняў, але й на яе добрыя стараны, каб першыя аддаліць, а другія пашырыць.

2. Адумысловага разгляду: а) асобных словаў, b) памагчымасьці найчасьцей ужываных спэцыяльных тэрмінаў, с) фонэтычных зьяваў, морфолёгічных і сынтаксычных хвормаў, каторыя або трэба аддаліць, калі яны чужыя, або пашырыць, калі яны свае собскія, беларускія, зварочуючы найчасьцей увагу на такія словы й хвормы, якія сустракаюцца ў нашай мове кніжнай.

3. Азнаямленьня з гутаркамі беларускае народнае мовы пры помачы этнографічных запісаў і беспасярэдніх гутаркаў паміж учасьнікамі.

4. Азнаямленьня з старым беларускім языком літаратурным.

5. Азнаямленьня з моваю некаторых памяткаў беларускага языка.

6. Як адзін із важных рэзультатаў працы, павінна быць прыгатова да выданьня слоўніка прынятых словаў і зборнічка прынятых пастановаў аб словах і хвормах.

# I. ФОНЭТЫКА.

НАЦІСК У ДЗЕЯСЛОВАЎ, СКЛАДЗЕНЫХ ІЗ ПРЫСТАЎКІ і—*іду*, —*іму* ў будучым простым часе ў 2 — 3 ас. адз. ліку і ў 1 — 3 ас. мн. ліку пераходзіць на адзін склад да пачатку слова: абыйду, дайду, зайду, знайду, пайду, перайду, прыйму, займу, найму і г. д. — з націскам на канцы, але — АБЫЙДЗЕШ, ДОЙДЗЕШ, ЗОЙДЗЕШ, ЗНОЙДЗЕШ, ПОЙДЗЕШ, ПЯРЭЙДЗЕШ, ПРЫЙМЕШ, ЗОЙМЕШ, НОЙМЕШ, ДОЙДЗЕ, ПОЙДЗЕМ, НОЙМЕЦЕ, ЗОЙМУЦЬ І ІНШ.

НАЦІСК У ЧУЖЫХ СЛОВАХ НА — *энт* у беларускай мове заўсёды бывае на канцы. Прыклады: ХУНДАМЭНТ, ДАКУМЭНТ, АРГУМЭНТ, МАМЭНТ, ПАРЛЯМЭНТ, ДЭПАРТАМЭНТ.

У НАЗОВАХ МЕСЯЦАЎ НА — *ень*, як *студзень* і пад., *е* выпадае ў залежных склонах адзіночнага ліку і ў цэлым множным ліку тады, калі перад *е* ёсьць адзін сугук: студзень—студня, ліпню, у жніўні, верасьнем, сьнежня, сьнежню, сьнежні і г. д. Але калі перад — *е* ёсьць два сугукі (*чырвень*), дык самагук перад —*нь* у залежных склонах адз. л. і ў ліку множным астаецца.

ЁСЬЦЬ СЛОВА »цьвет«, але ЦЬВІТУ—ЦЬВІСЬЦІ (з *і* па *в*), а ня *цьвяту—цьвясьці*. Мясцовая хворма ад *цьвісьці—цьвію, цьвіеш* і г. д. — найчасьцей ужываецца да азначэньня плесьненьня (хлеб *цьвіе*). Ня ўсе раслыні ЦЬВІТУЦЬ і ЦЬВІТУЧЫ маюць цьвет, часьць расьлінаў (прыкл.: жыта, пшаніца, мятліца) красуе (мясцовая хворма *расуе*) і красуючы (мясц, хворма расуючы), мае красу (мясц. *расу*) Расьліны, што цьвітуць, або завуцца краскамі, як *рожа, латаці, пералескі і інш., або ў часе* ЦЬВІЦЕНЬНЯ маюць на сабе краскі, як яблына, ігруша, ліпа, клён, бэз і інш. Мясцамі краску завуць кветкаю. Як маем «цьвет», але «цьвіту — цьвісьці», таксама маем сьвет, але сьвітаю — сьвітаць (з *і* па *в*).

ПАВОДЛЕ ТАКІХ сваіх слоў, як *дрыжэць, крышыць, трываць, паўстала ры* ў АДРЫС, АДРЫСАВАЦЬ, АРЫШТ, РЫШТАВАЦЬ, АРЫШТАВАЦЬ, РЫШТАНТ — заўсёды з—*ры*.

ПАБЕЛАРУСКУ ЁСЬЦЬ ЯЕЧНЯ, ЯЕЧКА, ТРАЕЦКІ, УЗАЕМНЫ і пад., а ня »яічніца, яічка, троіцкі, узаімны«.

КАЛІ ДА ДЗЕЯСЛОВАЎ *іду—ісьці, іму, імаю—імаць* дадаецца прыстаўка із сугукам на канцы, дык па сугуку прыстаўкі будзе *ы* (а ня *о* або *а*): абыйду, абыйдзеш, абыйму, абыймеш, і г. д. абыймаць, абыймаю, адыйду, адыйдзеш, адыйдзе, зыйду, зыйдзеш, падыйду, падыйдзем, разыйдземся, узыйдуць, здыймем, здыймуць, падыйму, падыйдзеш, падыймаць, — маю і. г. д. Таксама перад *ішоў* йму, здыйму, *падыйму*, прыйму, абыйдзеш, абыйдзе і. г. д.

ДЗЕЯСЛОВЫ, СКЛАДЗЕНЫЯ З ПРЫСТАЎКІ Й ДЗЕЯСЛОВА *іду* або *іму*, маюць ува ўсіх асобах адз. й мн. ліку будучага простага часу *й* па прыстаўцы: абыйду, адыйду, выйду, зыйду, надыйду, падыйду, прыйду, разыйдуся, увыйду, узыйду, абыйму, адыйму, выйму, здыйму, *падыйму*, *прыйму*, *абыйдзеш*, абыйдзе і. г. д.

Дзеясловы, складзеныя з прыстаўкі і *ішоў, ішла, ішло* маюць у мінулым часе па прыстайцы *й*: ДАЙШОЎ, ЗАЙШОЎ, ЗНАЙШОЎ, ПАЙШОЎ, перайшоў, прайшоў, абыйшоў, адыйшоў, выйшаў, зыйшоў, надыйшоў, падыйшоў, прыйшоў, разыйшоўся, увыйшоў, узыйшоў, узыйшла і г. д.

У неазначаным ладзе дзеясловы, складзеныя з прыстаўкі і *ісьці* маюць *й* па прыстаўцы: абыйсьці, адыйсьці, выйсьці, зыйсьці, надыйсьці, увыйсьці і інш.

ЗДВАЕНЬНЕ СУГУКАЎ. У імёнах зборных (*гальлё, нажжо* і інш.), дзеяслоўных (*жыцьцё, чытаньне*), нярэдка ў іншых хвормах

назоўаых імёнаў (*судзьдзя*), у неазначаным ладзе (*судзіцца*), у трэцяй асобе цяперашняга часу абодвых лікаў (*ён судзіцца, яны судзяцца*) маем у беларускім языку здваеньне сугукаў (зычных). Ня бывае здваеньня *р* (зьвяр'ё, надвор'е) і вусьняных сугукаў (*дуб'ё, куп'ё сям'я, снапоўе, праваслаўе*). Кажны зь іншых сугукаў ня мае здваеньня тады, калі перад ім ёсьць накшы сугук, напр.: сьмяцьцё, але *лісьцё, хусьце;* судзьдзё, але *жардзё, порце;* кажацца, дацца, паддацца, але ён *дасца, удасца, паддасца*).

МАЕМ ЗЫЧЫЦЬ, ПАЗЫЧЫЦЬ, ПАЗЫКА, УЗЫЧЫЦЬ, ЗЫЧЛІВЫ, ЗЫЧЛІВАСЬЦЬ (заўсёды *з* а ня *ж*), а ня *жычыць і г. д.**)

ПАБЕЛАРУСКУ МАЕМ РОЗНЫ, РОЗЬНІЦА, АДРОЗЬНІЦЬ (із *з* а ня *ж*), а ня »рожны, рожніца« і г. д.

БЕЛАРУСКАЯ ХВОРМА ЁСЬЦЬ МЯККІ (з двума *к к*), МЯКЕНЬКІ, МЯКЧЫНЯ, а не »МЯГКІ« і г. д. — з *г*, як у мове расейскай.

ЗЬМЯКЧЭНЬНЕ *з* У ПРЫЙМЁНАХ. *з* на канцы прыймені перад мяккім сугукам наступнога слова і перад *j* наступнога слова зьмякчаецца. Трэба вымаўляць і пісаць: *зь* Вільні, прыехаў дзед *ізь лесу, безь мяне, перазь яму пераскочыў і інш.*

ЦЯПЛІНЯ. Назоўныя ймёны абстрактныя на *-ня* маюць у прадапошнім складзе — *і-* (*блізіня, цьвярдзіня, вузіня*) і адно па сугуках ацьвярдзелых (*р* і шыпячых) мусіла паустаць *ы* (*шырыня, даўжыня*). Дзеля таго ёсьць *цяпліня* (зь-*лі*-), а не *цяплыня.*

АЦЬВЯРДЗЕНЬНЕ *ль*. У беларускім языцэ *ль* перад *ц* у йменаў зьмяншальных ніякага роду ацьвярдзела, маем: КОЛЦА, РЫЛЦА, МЫЛЦА, ПАМЯЛЦО, салца, жыгалца, вяселца, МАСЕЛЦА і г. д. Магчыма такжа ўжываць *л* цьвярдое перад *ц* у йменаў мускіх: палца, палцу, стралца, стралцы, відэлцы, валцы, малцы і г. д.**)

СЛОВЫ »ІСНАВАЦЬ, ІСНАВАНЬНЕ« пішуцца фонэтычна, знач. так, як вымаўляюцца (бяз *т*).

ПАБЕЛАРУСКУ ЁСЬЦЬ ЗРАДА, ЗРАДНІК, ЗРАДЗІЦЬ (бяз *д* па *з*), а ня »здрада, здраднік« і г. д.

ПРЫЙМЯ *ў — ўва* (*у — ува*). Маем дзьве хвормы таго самога прыймені —*ў* (па сугуку папярэдняаг слова *у*) і *ўва* (па сугуку папярэдняга слова *ува*). Абедзьве гэтыя хвормы можна ужываць. Прыкладам: У ЎСІХ і ЎВА ЎСІХ, *у сьне* і *ува сьне, у зборні* і пад. Хвормы *ўва* ня можна мяшаць із прыстаўным *в*, што зьяўляецца на

---

*) Аб з у з ы ч ы ц ь і іншых глянь арт. Я. Станкнвіча «Распадабненьне шыпячых у беларускай мове» («Родная мова» № 1—2. Вільня 1930 г., бач. 27).

**) Аб ацьвярдзеньню **ль** у беларускай мове у гэтых і іншых прыпадках глянь арт. Я. Станкевіча «Дыспаляталізацыя **ль** у беларускай мове» («Працы клясы філёлёгіі» I, Менск 1928 г., абч. 242).

пачатку слова перад *а* па прыймені *у, ў* (атава—коні ў ватаве). Прыстаўное *в* бывае па прыймені *у, ў* толькі перад *а* (даўнейшым і паўсталым із ненацісьненага *о*) на пачатку слова, а прыймя *ўва* (*ува*) можна быць замест *ў* (*у*) толькі перад сугукам наступнога слова або перад *ў, й* (*ува сьне, ува ўсіх*).

Ніколі ня можна ўжываць хвормы ва (*ва ўсіх* і пад). Чыста белар. хвормы гэткія: УПХНУ—УПХНУЦЬ, УЖАНУ—УГНАЦЬ (у што, прыкл. у гарод, у шкоду), УТКНУ—УТКНУЦЬ, УТКУ—УТКАЦЬ, УБ'Ю—УБІЦЬ (прыкл. гвозд у сьцяну), угну — угнуць, упхёны, угнаны, уткнёны, а не *ўва*пхну—*ува*пхнуць, увагну, уватку, уваб'ю, увагнаны, уваткнёны і г. д.

Агульна беларускімі хвормамі ёсьць УХОД, УХОДЗІНЫ, УХОДЗІЦЬ, каторыя й маюць ужывацца ў языццэ літаратурным, а ня «*ўва*ход, уваходзіны, уваходзіць».

УЖЫВАНЬНЕ ГУКУ *ѕ* (=лац. *g*). Гук *ѕ* астаецца ў беларускім языццэ толькі ў словах чужых, малапашыраных, прыкл. ЅЕОЅРАФІЯ, ЅЕОМЭТРЫЯ, а ў усіх іншых, значыцца агульна пашыраных, замест *ѕ* маем *г* (=лац. *h*) — ГАНАК, ГУЗІК, РЫГА і да г. п.

Пішучы ў мовах чужых, дапушчаючых ужываньне літары *h*, трэба ў беларускіх прозьвішчах і наагул у собскіх назовах беларускіх пісаць *h* (а ня *g*). Прыкл. палацінску трэба пісаць *Bohatkievič*.

ГРУПА *нт*+*с* дае *нц*. Калі назоўнае імя мае на канцы *нт* (прыкл. *студэнт*), дык утваронае ад яго назоўнае імя зборнае будзе меці хворму на—*нцтва* (а ня—*нства*)—СТУДЭНЦТВА, а прымета будзе меці хворму на —*нцкі* а ня—*нскі*)— СТУДЭНЦКІ, ЭМІГРАНЦКІ, ПРЕЗЫДЭНЦКІ, ПРОТЭСТАНЦКІ г. д.

ПРЫСТАЎНОЕ *в*. *) Перад пачынаючым склад націсьненым *о* заўсёды бывае прыстаўное в (ВОГЛЯДКА, ВОБУЙ, ВОШЧУПКАМ, ВОЙСТРЫ, ВОЗЕРА, ВОСЕНЬ, ВОСЕНСКІ, ВОБАД, ВОЛАВА, ВОЦАТ, ЛЯВОН, восвы, вокны, войча і інш.). Перад *о* ненацісьненым або—накш кажучы—перад гукам *а*, які паўстаў із ненацісьненага *о*, прыстаўнога *в* блізу што ніколі ня бывае (аглядацца, абувацца, ашчупаваць, астрабрамскі, астрог, азярцо, асянчук, абады, алавяны, альховы, альшэўнік, АСВА, АКНО, АЦЕЦ і інш.). Перад гукам *а*, што паўстаў із ненацісьненага *о*, прыстаўное *в* можа быць толькі ў выняткавых прыпадках, зьяўляючыся па аналёгіі да тых хвормаў, дзе *в* бывае перад *о* націсьненым; гэтак, напр. магчыма ВАЙСТРЫЦЬ пад уплывам хвормы 3 ас.: ён войстрыць.

3. Перад пачынаючым склад націсьненым у заўсёды ёсьць прыстаўное *в* (ВУШЫ, НАВУКА, ВУЛІЦА). Перад пачынаючым склад

*) Ширэй аб прыступауным в гл. у варт. Я. Станкевіча «Прыстаўное в у беларускай мове» (Родная мова», № 3-4, Вільня 1930, бач. 66).

ненацісьненым у бывае прыстайное *в* тады, калі *у* паўстала з праславянскага юса (вусаты, вуда, вузёл, вузлаваты, вужака, вузіня, вугор і інш.); у гэткіх прыпадках беларускае *ву* адпавядае польскаму *wą, wę (wąsaty, węzeł, wąski* і інш.). Перад ненацісьненым у, непаўсталым із *юса,* у вадных прыпадках бывае *в* (ВУЧЫЦЕЛЬ, ВУШАК і інш.), а ў другіх ня бывае (УМЕЦЬ УЧЫНІЦЬ, УЖО); дзе ў такіх прыпадках ёсьць *у, ў,* а дзе *ву* — пазнаём із практыкі. Калі перад ненацісьненым *у* ня бывае *в*, дык *у* астаецца толькі па сугуку (*ён умее*), але па самагуку (галосным) пераходзіць у *ў* нескладовае (ЯНА ЎМЕЕ).

4. Па прыймені *у, ў* і па прыстаўцы *у, ў* бывае перад *а* (даўнейшым і паўсталым із ненацісьненага *о*) прыступаўное *в* (АГОНЬ, АВЁС, АЛЕ — *палена ў вагни ў ваўсе*—, адзін чалавек — БЫЛІ Ў ВАДНАГО ЧАЛАВЕКА, асоба—*увасабленьне* і г. д.). Па прыймені у, ў прыстаўное *в* хоць і вымаўляецца ў собскіх імёнах, яно ня пішацца (у Адама, у Амэрыццы).

КАЛІ БЫВАЕ *з*, А КАЛІ *із*. Па сугуку папярэдняга слова да прыймені *з* дадаецца *і:* Ішоў Тодар *із* Тадорай, знайшлі лапаць *із* аборай.

Таксама перад с, з, *сь, зь, ш, ж* наступнога слова да прыймені *з* дадаецца *і*: Ішлі браты *із* сястрой, Паехалі *із* Жыдам.

У вершах дзеля разьмеру можна дадаваць *і* да прыймені *з* і па самагуку папярэдняга слова, хоць-бы наступное не начыналася із *с, з, сь, зь, ш, ж*. Прыклад:

Як ніхто *із* людзей не патрапіць стрымаць
Шуму ветру маланкі ці буры, —
Так ніхто і другіх навяртаць і зьмяняць
Сіл ня мае напроціў натуры. *В. Г.*

ПЕРАХОД *і ў й.* 1. Калі злуч *і* стаіць па самагуку папярэдняга слова і адначасна лучыць два адонлькавыя склады казаньня (два словы, адказаваючыя на тое самае пытаньне), дык пераходзіць у *й* (нескладовае). Прыклады: Стаялі сталы *й* лавы, Вучанікі чыталі *й* пісалі, Ён піша борзда *й* хораша, Яблыкі былі вялікія й сакаўныя.

2. Калі *ненацісьненае і* стаіць на пачатку слова, а папярэдняе слова канчаецца на самагук, дык гэткае *і* пераходзіць у *й*. Прыклад: Яны *йдуць* дамоў. Калі аднак перад словам, што пачынаецца з *і* ёсьць знак прыпынку, дык тады пачатнае *і* не пераходзіць у *й*. Прыклад: *Калі трэба, казала, ідзеце дамоў.*

У вершах дзеля разьмеру можа *і* не пераходзіць у *й*. Прыклад:

Душы і сэрцайка такога,
І тэй бязьмернай дабраты
Шукаці хіба толькі ў Бога —
Ў другіх людзей ня знойдзеш ты.

*Я. Купала.*

КАЛІ БЫВАЕ *у*. А КАЛІ *ў*. Па сугуку а так-жа па *ў, й* папярэдняга слова заўсёды бывае прыймя у (а ня *ў*). Прыклад: БЫЎ У БАЦЬКІ АДЗІН СЫН. Таксама па сугуку і *па ў; й* папярэдняга слова на пачатку наступнога слова можа быць толькі у (а ня *ў*): КАЗЁЛ УЛЕЗ У ГАРОД.

Па самагуку папярэдняга слова заўсёды бывае прыймя *ў* (а ня *у)* і *ў* (а ня *у*) на пачатку слова. Прыклад: БЫЛІ Ў БАЦЬКІ ТРЫ СЫНЫ ДЫ ЎСЕ-Ж ЯНЫ ВАСІЛІ. У вершах дзеля разьмеру па самагуку папярэдняга слова можа БЫЦЬ У, А НЯ Ў.

Калі аднак просьле папярэдняга слова стаіць знак прыыпнку, дык пішам *у* (а ня *ў*. Прыклад: *Розныя былі гулі: у яшчура, у ката й мышку.* У вершах і просьле знаку прыпынку дзеля рытмікі можа быць *ў* (гл. вышэй прыведзены верш Я. Купалы).

# II. МОРФОЛЁГІЯ.

ЧАСАПІС, ЗАПІС І ПАД. Гэткія словы, як часапіс, запіс, кнігапіс, жыцьцепіс у беларускім языццэ мускога роду і маюць на канцы *с* цьвярдое.

ПОЭТА. У беларускім языццэ ня мала ёсьць словаў мускога роду на *а* (*судзьдзя, сабака* і інш.), а яшчэ балей словаў на —*а* агульнага роду (*гуляка, забудзька, умека, калека* і шмат іншнх). Дзеля таго пазычанае з лацінскае мовы poeta мае й аставацца з *а* на канцы — *поэта,* а ня можна яго пад уплывам расейскім мяняць на *поэт*. Поэта скланяецца гэтак: адз. лік: наз. поэта, род. поэты, дав. поэце або поэту, він. поэту, тв. поэтаю або поэтам, м. аб поэту.

ЧУЖЫЯ НАЗОЎНЫЯ ЙМЁНЫ НА — *істы*. У сівую старыну ў беларускім языццэ прыкметы мелі хворму іменную («кароткую»)—*плячыст, прысадзіст, завіваст* і пад. і хворму складзеную (*«поўную»)* — ПЛЯЧЫСТЫ, ПРЫСАДЗІСТЫ, ЗАВІВАСТЫ і пад. З часам гэная хворма — «кароткая» — шчэзла ў гэтай катэгорыі прыметаў, асталася толькі хворма «поўная» — плячысты і пад. Далей, пад уплывам гэтых беларускіх прыкметаў на—*істы* пазычаныя з чужых моваў назоўныя імёны на — *іст* прыняіл на канцы *ы*: АРГАНІСТЫ, ЦЫМБАЛІСТЫ, СОЦЫЯЛІСТЫ, КАПІТАЛІСТЫ. Скланяюцца яны як прыкметы:

Наз. соцыялісты, соцыялістая,
Род. соцыялістага, соцыялістае,
Дав. соцыялістаму, соцыялістай,
Він. соцыялістага, соцыялістую,
Тв. соцыялістым, соцыялістай,
М. соцыялістым, соцыялістай,
Мн. лік.: соцыялістыя, соцыялістых і г. д.

ЖОНЧЫНЫЯ (МАТЧЫНЫЯ), ДЗЯВОЦКІЯ (ДАЧЧЫНЫЯ) Й ДЗЯЦЮЦКІЯ (ХЛАПЕЦКІЯ, НААГУЛ СЫНЬНІЯ) ХВОРМЫ ПРОЗЬВІШЧАЎ у беларускім языку прадстаўляюцца так, што ёсьць чатыры хвормы таго самага прозьвішча ў залежнасьці ад таго, ці завём па прозьвішчу a) бацьку (мужа), b) матку (жонку), c) дачку (дзеўку, дзяўчыну), d) сына (хлапца, дзяцюка).

Жончына хворма прозьвішча творыцца ад муской хвормы суфіксам—*іха, ыха*: Каваль—Каваліха, Каляда—Калядзіха, Якубёнак—Якубёнчыха, Пяткевіч—Пяткевічыха, Ракіцкі—Ракіччыха.

Дзявоцкія хвормы прозьвішчаў творацца гэтак: a) ад хвормаў матчыных суфіксам — *ка* і зьменай *х* на *ш*, так што паўстае суфікс *-ішка, -ышка:* Кавалішка, Калядзішка, Якубёнчышка, Пяткевічышка, Загоршчышка, Ракіччышка; b) ад хвормаў бацькаўскіх суфіксамі *-янка, -анка, -інка* і *-ынка:* Кавалянка, Калядзанка, Пяткевічанка, Пяткевічынка, Загоршчанка, Загоршчынка, Ракіччанка, Ракіччынка.

Сыньнія (хлапецкія, дзяцюцкія) хвормы прозьвішчаў творацца ад хвормаў бацькаўскіх суфіксам: a) *онак:* Кавалёнак, Калядзёнак; b) *-ік, -ык:* Кавалік, Калядзік, Якубёнчык, Пяткевічык, (або Пяткеўчык)-, Загоршчык, Ракіччык; c) *ук* Кавалюк, Калядзюк; d) *-ок* (*-ак*): Касяк—Касячок, Радзюк—Радзючок, Шыпок—Шыпочак.

Ад прозьвышчаў із суфіксамі: *-оў, -аў* (Іваноў, Янкаў),- *-еў* (Растаргуеў), *-ін—, ын* (Гнаулін, Сініцын) творацца жончыныя, дзявоцкія й дзяцюцкія іх хвормы так, як-бы менаваных суфіксаў у прозьвішчах ня было: Іваніха, Янчыха, Растаргуіха, Гануліха, Сінічыха; Іванішка, Янчышка, Растаргуішка, Ганулішка, Сінічышка, Іванянка, Янчанка, Растаргуянка; Іванёнак, Растаргуёнак, Растаргуік, Ганулік, Іванюк, Янчук, Сінічук.

Усе хвормы жончыныя, дзявоцкія й дзяцюцкія на *-онак* могуць мець націск на суфіксе, пры помачы каторага ўтворнаы, толькі тады, калі ў бацькаўскай хворме прозьвішча націск на апошнім складзе (Калядà — Калядзìха, Калядзìшка, Калядзянка, Калядзёнак), у праціўным прыпадку націск ува ўсіх хвормах астаецца на

тым складзе, дзе ён ёсьць у хворме бацькаўскай (Пяткевіч — Пяткевічыха, Пяткевічышка, Пяткевічанка, -ынка; Зарорскі — Загоршчыха, Загоршчышка, Загоршчанка, -ынка). Звычайна таксама бывае й у хворме дзяцюцкай на *-ук* (Зара—Зарук).

Калі аднак прозьвішча мае хворму на *ра* і націск на перадапошнім складзе (Зьмітра, Зубра, Сябра), дык жончына, дзявоцакая й дзяцюцкая яго хворма, маюць націск такі, як-бы ў бацькаўскай хворме быў націск на складзе апошнім (Зьмітр*ы*ха, Зубр*ы*ха, Сябрыха, Зьмітр*ы*шка, Зубр*ы*шка, Зьмітронак, Сябронак). Дзяцюцкія хворм прозьвішчаў із суфіксам *-ік, -ык* ніколі ня маюць націску на гэтым суфіксе.

Як ад бацькавае хвормы прозьвішча творацца хвормы жончыны, даччыны й сыньнія, так і ад бацькавага імені творацца асабовыя назовы жонкі, дачкі й сына; творацца прытым-жа тымі самымі суфіксамі і маюць наагул там-жа націск, як і тыя-ж хвормы, якія ўтвораны ад бацькаўскага прозьвішча. Прыкладам: Сьцяпан— Сьцяпаніха, Сьцяпанішка, Сьцяпанёнак і г. д.

«ЗОЛАК» У ЗАЛЕЖНЫХ СКЛОНАХ ТРАЦІЦЬ *а*, значыцца скланяецца гэтак: наз. золак, род. золку, дав. золку, він. золак, тв. золкам, мес. золку.

КАНЧАТАК—*у* У РОДНЫМ СКЛОНЕ АДЗ. ЛІКУ маюць гэткія імёны мускія: a) матар'яльныя (*пяску, попелу, дажджу, сьнегу*), b) абстрактныя (*смутку, плачу, голасу*), c) зборныя (*рою, лесу, народу*). Апрача таго слова »дом« мае ў родным скл. хворму *дому*.

МЕСНЫ СКЛОН АДЗ. ЛІКУ ЙМЁНАЎ МУСКІХ АСАБОВЫХ канчаецца на—*у*: АБ ГАСЬЦЮ, АБ КУПЦУ, АБ СЫНУ, АБ СУСЕДУ, АБ ПАНУ, АБ ПОЭТУ, АБ ХРЫСТУ, АБ БУСЛУ (ПРОЗЬВІШЧА), хоць кажацца »аб бусьле«, калі слова »бусел« абазначае птушку.

ХВОРМЫ 1-ае й 2-ое АС. МН. Л. ЗАГАДНАГА ЛАДУ. Агульна-беларускай хвормай літаратурнай ёсьць хворма з е (э) перад канчаткам — *це* 2-ое ас. мн. л. загаднага ладу: *нясеце, бярэце, сядзеце, крычэце*. Тое-ж е (э) ёсьць перад канчаткам 1 ас. мн. л. загаднага ладу (*нясем, бярэм, сядзем, крычэм*). Хвормы з *і* (*ы*) ў 1 і 2 ас. мн. ліку загаднага ладу (нясіма, бярыма, сядзіма, крычыма; нясіце, бярыце, сядзіце, крычыце) *мясцовыя* (дыялектычныя).

Ёсьць нямала дзеясловаў, нямаючых самагуку перад канчаткам 1 і 2 ас. мн. л. загаднага ладу (кіньце, сядзьце, дайце); гэткія дзеясловы ў 1. ас. мн. л. загад. ладу канчаюцца заўсёды на — МА: КІНЬМА, СЯДЗЬМА, ГУЛЯЙМА, ЕЖМА і інш.

# III. СЛОЎНІК.

ПОЙМЫ абазначаныя парасейску определять,—ить, у беларускім языку перадаюцца славамі АЗНАЧАЦЬ, — ЫЦЬ; определение—АЗНАЧЭНЬНЕ; определительный—АЗНАЧАЮЧЫ; определительный—АЗНАЧАЛЬНЫ; определенный—АЗНАЧАНЫ.

»АЛЕ« ўжываецца: 1. як пацьверджаньне, прыкладам: *Ці гэта праўда? — Але, праўда.* 2. як праціłежны злуч — *Ганулька добра чытае, але яшчэ блага піша.*

Дзеля пацьверджаньня слова »так« ніколі ня ўжываецца, а мае толькі значэньне прыслоўя спосабу (на пытаньне як?). Прыкл.: *Трэба рабіць так, як робаць разумныя людзі.*

»ГАСПАДАРСТВА«, А НЕ »ДЗЯРЖАВА« і пад. рас. *государство* адпаведае беларускае ГАСПАДАРСТВА, а не »дзяржава«; рас. государственный—бел. ГАСПАДАРСТВЕНЫ, а не »дзяржаўны«, рас. *государь, государыня* адпавядае бел. ГАСПАДАР, ГАСПАДАРЫНЯ; рас. хозяйство, хозяйн, хозяйка, адпавядае белар. ГАСПАДАРКА, ГАСПАДАР, ГАСПАДЫНЯ.

ГРАЦЬ, ГРАНЬНЕ можна быць толькі на музычным струмэнце (граць на йскрыпцы, цымбалах і г. д.).

»ГУЛЯЦЬ, ПАГУЛЯЦЬ, ЗГУЛЯЦЬ« маюць гэткія значэньні: 1. Нічога не рабіць быць не занятым. *Хто перабірае ды часта мяняе, у таго заўсёды хамут гуляе;* 2. Забаўляцца. *Гуляць у яшчура, дзеці гулаюць, згуляць вясельле;* 3. рас. кутить, *Гуляй дзяціна —твая гадзіна* Нас. 125; 4. Гуляць у карты; 5. Як провінцыяльнае, значыць СКАКАЦЬ. ГУЛЯЦЬ ЛЯВОНІХУ, ЮРКУ, КАДРЫЛЮ.

Назоўныя йімёны »*гульня й гулі*« маюць значэньні адпавядаючыя значэньням вышменаваных дзеясловаў.

ПАГУЛЯНКА, -і значыць тое, што 1. рас. развлеченіе, 2. рас. перемена (между уроками). Прыкл.: *Дзяцей пусьцілі на пагулянку.*

»МУЗЫКА«, -і (націск на ы) значыць той, што грае, незалежна ад того, ці гэта будзе просты музыка, ці мастак. Множны лік музыкі значыць яшчэ »ігрышча«. Музыка (націск на у) значыць »граньне«.

ПАБЕЛАРУСКУ ёсьць НУТРАНЫ, -ога (прыкл. *нутраны замок, міністар нутраных спраў*), а ня *ўнутрані.*

Рас. *податливый* адпавядае белар. ПАДАЎКІ, -ОГА.

ПАБЕЛАРУСКУ КАЖАЦЦА ПАДЧЫРКНУЦЬ (прыкладам слова, месца ў кнізе і да г. п.), падчыркненьне, падчыркваньне, падчыркнены (па ч ёсьць заўсёды—*ыр*, а ня —*ор*), а не »падкрэсьліць, падкрэсьленьне, падкрэсьлены« і падобн.

ПАЙМЕННА, ДЫКЖЭ. Рас. *именно*, адпавядае белар. ПАЙМЕННА. Прыклад: *Быў там шмат хто, пайменна: Зяновічы, Забярэзінскія, Зубовічы*. А калі падчыркаваецца, тады рас. *именно*, адпавядае белар. дыкже: *Што робіш? — Дыкжэ тое раблю, што мне загадалі*.

ПРЫЯЦЬ, СПАГАДАЦЬ, СПАЧУВАЦЬ, ЗЫЧЫЦЬ, ЖАДАЦЬ. Ёсьць гэткія беларускія словы: спагад, спагадны, спагаднасьць, спагадаць, спагадлівы, спагадлівасьць, спагаднік, спагадніца.

Аднолькавага із »СПАГАД, СПАГАДНЫ, СПАГАДАЦЬ« значэньня ёсьць словы »СПАЧУЦЬЦЁ, СПАЧУВАЮЧЫ, СПАЧУВАЦЬ«. Гэтак, прыкл., можна *спагадаць* або *спачуваць* чалавеку ў бядзе, гору і іншым няшчасьцю.

Накшае значэньне мае слова »прыяць«. *Прыяць* можна, як у бядзе, так і ў шчасьцю—заўсёды. Мае ўжывацца прыяць (бяз с), а ня *спрыяць*.

Узноў накшае значэньне словаў »зычыць, зычэньне, узычыць, зычлівы, зычлівасьць« і »жадаць, жаданьне, жаданы«. МОЖНА ЗЫЧЫЦЬ АБО ЖАДАЦЬ ЧАЛАВЕКУ ЎДАЧЫ, ШЧАСЬЦЯ.

СТАН, СТАНОВІШЧА, ПАЛАЖЭНЬНЕ. Стан—ужываць у значэньню status, рас. состояніе, прыкладам: *вада ў жыдкім і цьвярдым стане, — стан пасеваў благі, — у нашым мужыцкім стане* і г. д.

СТАНОВІШЧА — мае ў сабе элемэнт актыўнасьці, адпавядае рас. позиция. Людзі займаюць *становішча* ў адносінах да якога пытаньня, прыкл.: становішча Беларусаў у віленскім пытаньні.

ПАЛАЖЭНЬНЕ, наадварот, мае ў сабе элемэнт пасыўнасьці. У »цяжкое палажэньне« можна лучыць паміма сваё волі, у той час як «становішча» можна толькі сваёй воляй заняць. Гэтак, прыкладам, *становішча* прэм'ера ў гаспадарстве — высокае, адказнае, але, займаючы такое становішча, ён можа апынуцца ў цяжкім *палажэньні* з прычыны опозыцыі.

БЕЛАРУСКАЕ СПАДКАЕМЦА, -ы (слова агульнага роду) адпавядае расейскаму наследник.

СУМЛЕЎ, СУМЛЯВАЦЦА і пад. Маем гэткія беларускія словы: *сумлявацца, -аюся* — рас. сомневаться; сумлеў, -ву, сумлевак, -ўку, рас. сомнение; БЯССУМЛЕВУ, БЯССУМЛЕЎКУ — бессомнения; сумлеўны, -ага — сомнительный; БЯССУМЛЕЎНЫ, -ага. Слова »сумніў« і пад. — украінізмы, што бачым хоцьбы з таго, што ў іх на месцу даўнейшага ѣ ёсьць *і*.

ПАБЕЛАРУСКУ ёсьць ХВАРАВІТЫ, а не *хвараблівы*

»ЯЗЫК« І »МОВА« — абодва словы беларускія. »Язык« ужываецца дзеля абазначаньня асобнае лінгвістычнае цэласьці. Прыкл.:

беларускі язык, беларускі літаратурны язык, гісторыя, граматыка беларускага языка. »МОВА« ўжываецца дзеля абазначаньня мовы індывідуальнае (прыкл.: *мова Купалава багацейшая за мову Багушэвічаву*), мовы якойсь групы народу (*мова сялян, мяшчан, рамесьнікаў*), якойсь мясцовасьці (*мова віленская, менская*), мова якогась твору (*можна разглядаць мову розных памяткаў беларускага языка*). Можна казаць і «*беларуская мова*», калі маем наўвеце, што хтось гамоніць ці піша і падобн. пабеларуску, але тады ня маем наўвеце асобнае языковае цэласці беларускае мовы.

ЯК ВЕТЛЫЯ ЗВАРОТЫ, ня могуць ужывацца ў беларускай мове словы »пан, паня, панéнка«. Вышменаваныя аднак словы ўжываюцца ў значэньню клясавым дзеля азначэньня вялікіх собсьнікаў зямлі.

Таксама ёсьць не беларускім, а дзеля таго не павінна ўжывацца званьне па бацьку, прыкл.: *Паўла Пётравіч**) і пад.

# IV. АБЭЦЭДА.

Зварочуемся да друкарняў, каб завялі КІРЫЛІЦКУЮ літару ѕ (ПІСОМАЯ), г (ДРУКАВАНАЯ).

Зварочуемся із заклікам да ўсіх пішучых і друкуючых пабеларуску, каб у беларускай лацініцы ўжывалі літары *v*, а ня *w*.

---

*) Шырэй аб беларускіх ветлых зваротах кажацца у варт. **Я. Станкевіча** «Асабовыя назовы па бацьку у Беларусаў» («Калосьсе», II, 1935 год, бач. 116—118).

